Цана асобнага № 30 кап.

# Вольная Беларусь

Тыдневік палітычны і літэратурны.

Умовы падпіскі:
На год......12р. —
На паўгода.... 7р. —
На 1 мес.... 1р. 50к.

Адрэс рэданцыі і адміністрацыі: г. Мінск Захараўская, 18. Тэл. 776.

Перамена адрэсу 50 к.

Год выдання II.



Ніхай жыве Незалежная Беларусь!



№ 17. 1918 г. 12-го мая 1918 г. № 17.

## Калі хочаш пазнаць.

Калі хочаш пазнаць, скуль так полыме бье,
Што палаець у душы, асьветляе твой шлях,
А ты імчышся, як сарна, па дзікай гарэ,
Упярод, ад парываў ні сьпіш па начах...
І ты хочаш людзям гэты шлях паказаць,
Асьветліць, раскапаць да зарніц ка усход
І да Праўды усіх зваць... Калі хочаш пазнаць:
Гэта полыме — твой беларускі народ.
Гэта полыме — іскры народнай душы,
Што у родных праменнях векамі жылі;
Гэта — одгукі песьняў пастушкі у цішы,
Гэта — одгукі творчай, магутнай зямлі...
Валатоўкі-курганы у пушчы глухой
Беларусь апавілі шчыр-сумам сваім.
Твой народ гартаваўся касой і сахой,
А ты — сын яго. Можаш гардзіцца ты ім.
Скарб душы ты ад вескі селянскай прынес.
Твой агонь — гэта дух тваіх быўшых дзядоў.
Адбывалі прыгон яны, моклі ад сьлез,
Праклінали жыцце свае соткі гадоў.
Адну радасьць ен меў, што унук-пастушок
Зажыве калісь лепей у родным краю.
Ты жа рос каля рэчкі, дзе шэпча дубок,-
Дык нясі ж назад сілы у вескy сваю.
Там адчынены дзьверы чакаюць цябе,
Апавітыя змрокам, у горы браты
«Вы ні горш за усіх, на што ганіць сябе?!
Гэй, да сонца, упярод!» — громка скажэш ім ты.
Ты ім скажаш: «Браточкі! на што жабраваць
Вам астаткі у чужых у багатых людзей,
А пад ногі свой хлеб, як пясок той, таптаць?
Вам здаецца — чужое, напэўне, смачней...
Пакідаеце золато роднай зямлі,
За пятак надзеваеце панскі хамут,
І меняеце добрыя тканкі сваі
На залатаны чорны шляхэцкі сурдут.
Выхадзі на абшар—там, дзе пушчы, лугі,
Там дзе Неман шапоча свой сказ многа лет:
«Кіньце, людзі, ярмо пастаяннай тугі,
Выхадзіце на волю, ідзіце у сьвет...
Там усім засьпевайце вы песьні лугоў,
Там усім разкажыце вы казкі палеў,
І русалкі, што выйшлі з маіх берагоў,
Вас абсыпяць гірляндай пахнучых лілей...»
Гэтак Неман гавора, твой бацька стары.
Твой імпэт — ад яго бурна-хвалевых вод.
Яго казкі ты слухаў з зары да зары,
Яго слухае увесь беларускі народ.
Ты павінен свой доўг назад несьці сюды
У сваю курную хатку, скуль вышоў на сьвет,--
Беларускі народ ратаваць ад бяды.
І тады толькі выпаўніш свой ты завет.

Вільня, 1915 г. **Ясакар.**

## Ці мелі славяне свае пісьменство.

Украінскі пісьменнік С. Ефрэмаў у сваей паважнай працы «Історія Українського Письменства», супыніўшыся на гэтым пытанню, разважае гэтак:

«Гістарычныя часы застаюць нашых прадзедаў на досыць высокай ужо ступені культурнасьці,—з упарадкованым грамадзкім ладам, з разробляваю сыстэмаю рэлігійных форм і культа, з зародамі дзяржаўнаго жыцця, нават з нікаторымі праблескамі нацыянальнай сьвядомасьці. Ці было у нас перад хрысьціянствам якое пісьменство, пра тое мы можам толькі дагадвацца, бо ніякіх сьлядоў яго да нас ні дайшло, апрыч якіх-колячы намекаў ды, можа, урыўкаў у старых летапісах. Можна толькі напэўна сказаць, што пісьменство м а г л о б ы ц ь хоць у зачаткавых формах, бо знакі для пісьма ужо існавалі. Баўгарскі пісьменнік канца IX-го в., чорнарызец Храбр, у сваем «Сказаніи о письменахъ славянскихъ» піша, што славяне ні мелі у пачатку пісьмен, толькі некія рысы і карбы («чертами и рѣзами читаху и гадаху, погани суще»), і ужо Канстантын-філозоф (сьв. Кірыла) выдумаў для іх абецадло на кшталт грэцкаго з 38 літар. Трэба думаць, што толькі хрысьціянская зьнявага да паганства ні дала Храбру тыя «черты» і «рѣзы» уважаць за сапраўдныя пісьмены, калі па іх славяне усе такі чыталі. З другога боку, у т. з. Панонскіх жыціях сьвв. Кірыла і Мэфодыя запісано, што у Корсуні (Херсонесі) сьв. Кірыла знайшоў ні толькі чалавека, што размаўляў «рускимъ языкомъ», а нават кнігі, эвангэлію і псалтыр, «рускими писмены» пісаныя. Як одгук гэтаго, у адной с пазьнейшых памятак нашаго пісьменства («Крэхоўская палея») ужо проста сказана, што «грамата руская явилася Богомъ дана въ Корсунѣ Русину, отъ нея же научися философъ Константинъ, оттуду слаживъ и написавъ книги рускимъ гласамъ». І наш стары кніжнік робіць цалкам добры, як на той час, высновак: «се же буди вѣдомо всѣми языки и всѣми людьми, яко... грамота руская никимъ же явлена, но токмо самѣмъ Богомъ вседръжителемъ и отцемъ и сыномъ и сьвятымъ духомъ».

Такім чынам, хоць німа пэўных зьвестак аб тым, што славяне мелі сваю уласную грамату і пісьменнасьць, але трэба зазначыць, што яны м а г л і яе мець.

-ь-

Адказ. На то гаспадар яго міласьць казаў вам паведзені, што ся датычыт таго васпамінання вашаго, ведаеце то самі, іж панствы яго міласьці гаспадарскія усі суць ні замкнёны, а есьць вольна каждаму прыехаць і ад'ехаць, купіці і прадаці, а іж чужаземцы імені пасядаюць, у том іны нікто ні есьць вінен, адно тот сам, каторы чужаземца на маетнасьць прыймует і імення яму сваі прадает. Кгдыбы есте іх чужаземца на маетнасьці свае ні прыймавалі і іменей ні прадавалі, оні бы тэж тых іменей вашых ні пасядалі. А што ся датычыт раздавання урадаў тым чужаземцам, іно яго міласьць гаспадар ні мает ужо волі ім урадаў давапі.

А што просіце, іж-бы то было зася к тым урадам прывернено, што ад каторых пажыткаў урадных зышло, іж-бы на том урадніку ні шкадавалі; іно гаспадар яго міласьць утраты і шкоды нікому ні жычыт, а так, хто-бы кольвяк у тых урадэех у чом сабе шкоду быці бачыў, тот віхай урад спусьціт, а шкоды ні прыймует.

Пастановы Віленскаго сойму 1554 г. і каралеўскія адказы. Артыкул I. Просьба. Затым просіце і чалом бьеце гаспадару яго міласьці, абы на Падляшшы і на Валыні іменей ні купавалі чужаземцы, ані жаднымі прычынамі ні пасядалі іменей, кгды-ж тым ні мала панство вялікаго князства убывает, яко есьце прыпамянулі некатарыя паветы і прасіце, іж-бы у том прывілеям земскім нарушэвне ні дзеялось, кгды-ж толькі родзічам і абывацялям таго панства вольнасьці прывілеяў оных служаць.

Адказ. Тую просьбу вашу яго каралеўская міласьць за слушную прынемшы, рачыт так застанаўляці: іж ужо ад таго часу ва усём вялікам князстве Літоўскам ніхто іны купаваці, ані каторым іншым збычаем ні мает, ані можат пасядаці імення шляхецкаго і усякаго кгрунту ляжачаго ва вечнасьць, кром заставы, едно аднародзіч і абывацяль вялікаго князства Літоўскаго тую вольнасьць мает мец і купіці і іншым абычаем пабожне вечнасьці імення ляжачаго набыці, водле права захоўваючыся. А ведзь жа пры граніцах і заставаю заграічны чалавек ні мает, ані можат мення і усякаго кгрунту зямельнаго дзяржаці і набываці, кроме родзічаў і абывацялей вялікаго князства, абы ся ні нарушылі ні чым прывілія земскія, прысягаю яго міласьці гаспадарскаю уцьвержоныя.

(Документы, объясняющія исторію З.—Русскаго краю. С.—Петербургъ 1865 г.)

# З Беларускаго слоуніка.

Б.

Баламут — — забавникъ, обманщикъ.
Баль — — балъ пиршество.
Баляса — — точеный столбикъ у перилъ.
Балясы тачыць — говорить веселый вздоръ.
Бамбіза — — возростный и неуклюжій
Банкет — — пирушка, пиршество
Барбарынство — варварство,жестокость.
Барвісты — — имѣющій яркій цвѣтъ.
Барвіць — — покрывать краскою, барвіць шчокі.
Барыць — — задерживать, мѣшкать.
Басіста ы — — басъ, поющій басомъ.
Басэтля — контр-басъ.
Батчына — — наслѣдственное по отцѣ имѣніе.
Бахур — — волокита, любовникъ.
Бахусаваць — пьянствовать.
Бахурство — — волокитство,развратъ.
Бачлівы — — сострадательный, внимательный къ другимъ; наблюдательный, умный.
Бачна — — разсудительно, предусмотрительно, осторожно.
Бачнасьць — — осторожность.
Бачны, бачнецца — видимый, виднѣться.
Бач — — вишь, вотъ.
Безбаронна — безпрепятственно, невозбранно.
Безбаронны — беззащитный.
Безбронна — — безоружно.
Безбронны — — невооруженный.
Безвартасьць — ничтожность.
Безвонтпліва, безвонтпна — без сомнѣнія, несомненно.
Безвонтплівы — несомнѣнный.
Безгалоуе — — бѣда, несчастіе.
Бездонне — — бездна.
Бездушны — — неодушевленный.
Безӭчна — — безчинно, развратно,
Безкарна — — безнаказанно.
Безквітна — — безъ писмен. вида.
Безквотна — — безпроцентно.
Безладзье — — несогласіе, ссора.
Безаблудна — безошибочно.
Безадпаведны — безотвѣтственный.
Безатхланна — не давая облегчднія,— безатхланная мука.
Безпамяцце — забвеніе.
Безпярэчна — безпрекословно.
Безпрацны — — безработный.
Безрахубна — безотчетно.
Безсумна — — безъ сомнѣнія.
Безхібна — — мѣтко, безошибочно.
Безчулы — — нечувствительный.
Бянтэжыцца — конфузиться.
Бервенне — — бревно.
Біло — — языкъ у колокола.
Благаславенство — благословеніе.
Блазнота — — малолѣтнія дѣти.
Бляер — — форма, образецъ чего либо.
Богабойлівасьць — страхъ Божій.
Барэнне, боркі — борьба.
Брыда — — гадость, мерзость.
Бронь — — оружіе, броня.
Бросьнь-ня — плѣсень.
Бруштыновы — янтарны.
Бруштын — — янтарь
Бунцік — — связочка нитокъ.
Бусі — — поцѣлуй по-дѣтски.
Бэз — — сирень.

В.

Вабіць — — привлекать.
Вада — — недостатокъ.
Вадкаваты — — жидковатый.
Вальчэнне — — борьба.
Вандраванне — путешествіе.
Вапна — — известь.
Варыво — — кушаніе.
Варьят — — сумасшедшій.
Варна — — знойно.
Варта — — стража
Вартаунічы — сторожъ.
Вартасьць — — стоимость.
Вялебнасьць — преподобіе.
Велягурыста — высокопарно.
Вельбіць — — хваліць, величать.
Весьняк — — деревенскій житель.
Зілія — — постъ наканунѣ большого праздника.
Вільгаць — — сырость, влажность.
Вінавайца — — должникъ.
Віншаванне — поздравленіе.
Вогір — — жеребецъ.
Водлуг — — по, согласно с тѣмъ.
Вожык — — ежъ.
Вадахрэшчо — праздникъ Богоявленія.
Возьнік — — кучеръ, извозчикъ.
Валаць — — звать, кликать.
Воле — — зобъ у птицы
Валасьцянін — сельскій житель.
Валацуга — — бродяга.
Волей — — пусть лучше
Ва мгненне — въ мгновеніе.
Вомпіць-плю — сомнѣваться—юсь.
Вонках — — внѣ, на дворѣ.
Вонтпенне — — сомнѣніе.
Вонтплівы — — недовѣрчивый.
Ворак — — мѣшокъ, денежный мѣшокъ.
Воцэт — — уксусъ.
Выйсьце — — выходъ.
Выканаць — — выполнить.
Вылівак — — недонош. яйцо съ мягк ю скорл.
Вылучаць — — отдѣлять.
Вымова — — произношеніе.
Вымоуна — — выразительно.
Вымоунасьць — выразительность.
Вынагрода — — вознагражденіе.
Вынайдзены — новоизобрѣтенный, открытый.
Вынайдаванне — изобрѣтеніе, изыскиваніе.
Вынайці — — изобрѣсть.
Вынадезак — — изобрѣтеніе.
Вынадезьці — вновь открыть.
Вынішчэнне — истребленіе.
Вынурэнне— —
Выабражэнне — представленіе, воображеніе.
Выпадак — — случай.
Выпяк — — припекъ.
Выперадкі — запуски.
Выплод — — отпрыскъ, приплодъ.
Выплад — — искорененіе.
Выпрауляць — отправлять, исправлять.
Выразьліва— — выразительно.
Выраз — — выраженіе.
Вырок — — судебное рѣшеніе.
Высіленне — — истощеніе.
Высіцца — — превозноситься.

*(Працяг будзе).*

Рэдактар Я. Лёсік.